# Тыднёвік Магілёўскі

№ 42 (106) 27 кастр. - 2 лістапада 2000 г. Кошт 50 руб.


# Ёсьць дзень такі, сьвятых Дзядоў...





*Старажытнае восеньскае сьвята Дзядоў апошнія дзесяць год трывала адваёўвае сабе пачэснае месца ня столькі ў календары краіны, дзе яшчэ шмат неспрыяльнага для сьвятла і сумленьня, сколькі ў душах людзкіх, якія павольна і нетаропка, аднак усё з большай прыязнасьцю і годнасьцю вяртаюцца да спрадвечных традыцыяў, колісь заснаваных на Боскай Беларускай зямлі папярэднімі пакаленьнямі.*

*Дзяды – дзень памінаньня продкаў. Можна й трэба ў гэты дзень паставіць у хаце сьвечку як знак памяці ўсіх, хто адыйшоў у іншы сьвет, усіх, хто загінуў за Бацькаўшчыну, усіх, хто пакінуў па сабе добрую памяць. Памерлым родзічам за вечаровым сьвяточным сталом, звычайна накрытым белым абрусам, пакідаецца месца і ставяцца келіх з талеркай... Першае слова ад старэйшага ў хаце гучыць у памяць родавых памерлых і ўсіх выбітных людзей з розных беларускіх пакаленьняў. Нетаропкая гаворка пра жыцьцёбыцьцё вядзецца аб продках, аб значных падзеях у гісторыі Краю, якія пакінулі па сабе як радасную, так і горкую памяць. Прыйдзіце да нас, сьвятыя Дзяды!.. – гэтае запрашэньне час ад часу абвяшчаецца за сталом, што надае вячэры кранальны і цёплы зьмест...*

*Мы не пачуем і ня ўбачым за нашым сталом продкаў, але мы адчуем іх духовую прысутнасьць. Мы зразумеем іх шчыры зварот да нас, нашчадкаў. Зварот пра вартаснасьць жыцьця ў прыстойнасьці і сумленьні. Пра любоў да роднага кута і Краю. Пра патрэбу берагчы мову і волю. Пра свой абавязак захаваць і перадаць (калі спатрэбіцца, коштам самаахвяраваньня, як гэта рабілі продкі) родную зямлю наступным пакаленьням, каб яны радасна жылі... Прыйдзіце, сьвятыя Дзяды, падтрымайце нас у гэтай гатовасьці!*

*...Дзесяць год таму старажытныя Дзяды ў выніку беларускіх рэаліяў міжволі набылі абрысы палітычнага дзейства і процістаяньня. Самое сьвята гэтае вярнулася да нас ад першага масавага шэсьця пад бел-чырвона-белымі харугвамі да Курапатаў – праз міліцэйскія кардоны і лямант хлусьлівай афіцыйнай прапаганды.*

*Людзі, аднак, не спужаліся... Штогод сотні і тысячы чалавек ідуць у Дзядаўскі дзень да сваіх шматлікіх Курапатаў, раскіданых па ўсёй нашай зямлі. Ідуць памаліцца, памаўчаць, прынесьці пакаяньне, падтрымаць бязьвінныя закатаваныя душы. Поруч зь імі – сумленьне і прыстойнасьць. Ці не таму й ачапляюць амонаўскія шыхты жалобныя Дзядоўскія шэсьці і маўклівыя мітынгі...*

*А яны праходзяць і адбываюцца. Усе дзесяць год. Як будзе тое ў бліжэйшыя выходныя дні і цяпер. У сталіцы – у Курапатах. У абласным цэнтры – ля вядомага гараджанам Крыжа Памяці, а 14-й гадзіне заўтра, у суботу, 28-га. У раёнах – па сваіх традыцыйных месцах.*

*...У гэты дзень ідуць да нас Сьвятыя Дзяды. У гэты дзень мы ідзём на сустрэчу зь імі.*

***Генадзь СУДНІК***

*(А па календары Дзяды - 2 лістапада).*



**ВЫБАРЧЫ РОЗГАЛАС**

## Адгукнуўся генэральны пракурор

Прызначаны колькі часу таму Вярхоўным Саветам Беларусі 13-га скліканьня генэральны пракурор Рэспублікі Беларусі Рыгор Пракаповіч зрабіў дняямі ў Літве, дзе ён зараз знаходзіцца, некалькі заяваў.

Ён сказаў: "Прыступіўшы да выкананьня сваіх службовых абавязкаў, няўхільна выконваючы патрабаваньні Канстытуцыі Рэспублікі Беларусі 1994 году, а таксама, у адпаведнасьці з нормамі Крымінальна-працэсуальнага закону, 1-га сьнежня 1999 году я ініцыяваў першую і, магчыма, самую галоўную, крымінальную справу. Яна ўзбуджаная паводле артыкулу 61.1 ч. 2 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусі. Гэты артыкул прадугледжвае адказнасьць за захоп дзяржаўнай улады ў Беларусі неканстытуцыйным шляхам. Справа ўзбуджаная па факце, і папярэдняе сьледзтва праводзіцца ў дачыненьні да прадстаўнікоў усіх трох былых галінаў улады, якія нават і цяпер падпарадкоўваюцца быломy прэзыдэнту, а на сёньняшні момант – ужо проста грамадзяніну Аляксандру Лукашэнку".

Далей Рыгор Пракаповіч выказаўся наконт выбараў 15 кастрычніка: "Адно зноў магу пацьвердзіць – гэтая справа абавязкова будзе мець судовую пэрспэктыву, а вінаватыя – пакараныя".

***Ёнас ЛАЎРЫНАВІЧУС,***
***Вільня***

## Альбо палітыка, альбо вучоба...

### (Калі палітыка, зразумела, "няправільная")

За актыўны ўдзел у кампаніі "Байкот-2000" з магілёўскага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту была адлічаная актывістка Маладога Фронту Ганна Зюзіна. Дзяўчына вучылася на 4-ым курсе філялягічнага факультэту на аснове дамовы. 10 кастрычніка яна была выкліканая да дэкана факультэту, які паведаміў ёй аб выключэньні. Падставай для падобнага жорсткага кроку, па яго словах, сталі пропускі заняткаў, якіх у Ганны Зюзінай было ня больш, чым у іншых студэнтаў. Усё на сваё месцы паставілі словы дэкана пра тое, што трэба займацца альбо палітыкай, альбо вучобай. На момант выключэньня ў Ганны не было ані запазычанасьцяў, ані вымоваў. Яна зьбіраецца падаваць скаргу ў суд.

***Паводле "Барц-ліст"***

## Улада ведае, хто каму перашкаджаў

У дзень выбараў на ўчастку №41 Цэнтральнай акругі ў абласным цэнтры па вул. Грышына грамадзкія наглядальнікі ў складзе 4-х чалавек сутыкнуліся пад вечар зь "неадэкватнай рэакцыяй" на сваю законную прысутнасьць на ўчастку з боку старшыні камісіі сп.М.П. Па сьведчаньні 4-х чалавек – В.Сівухі, В.Харужага, А.Александровіча, С.Абадоўскага – гэтая пасадавая выбарчая асоба (у звычайныя дні – дырэктар школы) была нападпітку. Назіральнікі прапанавалі сп.М.П. прайсьці добраахвотнае тэставаньне ў мэдычнай установе, зафіксавалі ягоны стан у адпаведным акце і выклікалі па тэлефоне прадстаўніка раённай выбарчай камісіі. Замест яго на ўчастку зьявілася намесьніца старшыні райвыканкаму Л.Панкова, якая, у сваю чаргу, "склала" пратакол на С.Абадоўскага за ягонае "умяшальніцтва" у працу камісіі.

Два дні суд Цэнтральнага раёна разьбіраўся ў гэтай справе. Учора было вынесенае рашэньне: аштрафаваць С.Абадоўскага на тры "мінімалкі".

***Уласная інфармацыя***


***На 3-й стар. сёньняшняга нумара "ТМ" распачынае сваё друкаванае жыцьцё праваабарончы Бюлетэнь "Абарані Сябе Сам". Магілёўскім праваабарончым цэнтрам ён будзе прапанавацца нашым чытачам двойчы на месяц. Рэдакцыя ПБ разьлічвае на ўвагу і зваротную сувязь.***



## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

Дзяржава ў нас вынаходлівы аматар наладжваньня усім выпрабаваньняў і іспытаў. Асабліва ў эканамічнай сфэры. Напрыклад, колькі ўжо часу, пад выглядам спрыяньня мітычным дзяржаўным інтарэсам і яшчэ больш мітычнаму народнаму дабрабыту, няшчасных беларускіх бізнэсоўцаў прымушаюць штогод нанова рэгістравацца. Кожны раз умовы працэдуры ўзмацняюцца. Невыпадкова, што колькасьць прыватных вытворцаў і камэрсантаў стабільна зьмяншаецца. Вось і сёлета свой легальны статус працягнулі толькі крыху больш паловы з наяўных на пачатак "рэгістрацыі". Пяць год таму ў нас было 16 тыс. прыватных прадпрымальнікаў, зараз меней за 10 тысяч. Было амаль 5 тыс. бізнэсовых структураў, а цяпер зь іх захавалася менш паловы. Яшчэ пара-тройка рэгістрацыяў – і капец нашым і без таго кволым рынкавым усходам. Тады, самі знаеце, будзе поўны камунізм.

Амаль 50 дзетак са слаўгарадзкай вёскі Ржаўка сёньня знаходзяцца пад пільным даглядам лекараў, бо заразіліся вірусам гепатыту А. Упершыню падобны дыягназ паставілі некаторым дзецям у вёсцы яшчэ ўлетку, але асаблівай увагі тады здарэньню не надалі. А за апошнія паўтары месяцы сытуацыя набыла характар лякальнай эпідэміі. Найбольш верагодным лічыцца захворваньне ад пітной вады з калодзежаў, якой карысталіся людзі, бо пэўны час не працаваў камунальны вадаправод.

Дзяржаўныя сацыёлягі зьвярнуліся да праблемаў дробных прадпрымальнікаў. Яны, сацыёлягі, даказваюць, што людзі ў рызыкоўную справу ідуць тады, калі не задаволеныя альбо не змаглі атрымаць працу па спэцыяльнасьці. Менавіта такім чынам, згодна дасьледаваньням, прыйшлі ў рынкавы гандаль 30% апытаных. Сацыёлягі ня сталі шукаць адказу на тое, што менавіта не задавальняла гэтых людзей ці якія дыплёмы ў нас ёсьць незапатрабаванымі. А гэта ж самае цікавае. Рызыкну без апытаньняў (якія, дарэчы, нядзёшава каштуюць) заўважыць, што жабрацкія дзяржаўныя заробкі людзей з дыплёмамі інжынэраў, тэхнолягаў і канструктараў хутка зусім агаляць нашыя прадпрыемствы, арганізацыі і гаспадаркі. А з другога боку, па выніках таго ж апытаньня, 20% "рыначнікаў" пабеглі зь дзяржаўных прадпрыемстваў і ўстановаў выключна ў спадзяваньні на эканамічную і грамадзянскую незалежнасьць. Такі матыў можна толькі вітаць.

Ледзьве не падвоілася колькасьць стратных прадпрыемстваў пад канец году. Калі на 1 студзеня іх было 52, то зараз 92. Па словах загадчыцы фінаддзела гарвыканкаму Эльміры Варапаевай, бюджэт згубіць ажно 2 млрд. руб. Улады бачаць асноўную прычыну, зразумела, у дрэнай працы "кадраў", а не ў заганнай сыстэме эканамічных зносінаў. У выніку – становішча увесь час і зьмяняецца ў накірунку "горш, яшчэ горш"...

Бабруйскія і асіповіцкія міліцыянты арыштавалі групу злодзеяў, якія незаконна зрэзалі 80 найкаштоўнейшых дубоў (узростам па 150-200 гадоў) і ўжо падрыхтавалі здабычу на продаж. На жаль, як сьцьвярджаюць спэцыялісты лясной гаспадаркі, такія выпадкі не такія ўжо й рэдкія. Каб гэта пасьпяхова папярэджваць, патрэбныя людзі, а значыць, прыстойная аплата іх працы і адпаведная тэхніка. Таму іншым разам крадуць самі лясныя чыноўнікі. Яны выдаюць "ліпавыя" дазволы, чым забясьпечваюць дах для злачынцаў, якія дзеляцца потым здабыткам.

У Магілёве адбыліся чытаньні, прысьвечаныя сусьветна вядомаму габрэйскаму гісторыку Сямёну Дубнову. Ён нарадзіўся ў Мсьціславе 140 гадоў таму. Для тых, хто цікавіцца іўдаікай (сукупнасьцю навук пра габрэйства), прозьвішча Дубнова ў найпершым шэрагу. Ён напісаў гісторыю народу, зрабіўшы гэта сыстэмна і навукова. На чытаньнях выступілі айчынныя і замежныя дасьледчыкі з Украіны, Літвы, Расеі. Але на жаль, не было краязнаўцаў і гісторыкаў з малой радзімы славутага гісторыка.

Дзяржаўны друк вобласьці моцна перапужаўся за лёс расейска-беларускага саюзу. Адначасна па ўсіх газэтах прайшоў зварот такіх расейскіх патрыётаў як Валянцін Распуцін і Васіль Бялоў. Паводле іх, нейкія цёмныя сілы ставяць яднаньню "палкі ў калёсы". Што да мяне, дык нешта я ня бачу асаблівай пагрозы гэтаму яднаньню. Відаць, што чарговая прапагандысцкая ліхаманка спатрэбілася для падтрымкі так званых выбараў і ўратаваньня іміджу Лукашэнкі... "А птичку всё равно жалко", – як гаворыцца ў адной рэкляме. Гэта я пра яднаньне, калі яно, не прывядзі Гасподзь, адбудзецца.

*Да сустрэчы,*
*Сымон Глазштэйн.*

## Ці спраўдзяцца прыстойныя намеры

***У Менск прыбыў новы амбасадар ЗША ў Беларусі Майкл Козак. У аэрапарту ён зрабіў заяву для прэсы, дзе адзначыў, што Злучаныя Штаты лічаць дэмакратычную й незалежную Беларусь ключом да стабільнасьці ў рэгіёне, а ён асабіста рады рэпрэзэнтаваць ЗША ў гістарычны момант для Беларусі, бо наступны год надае ёй магчымасьць вырвацца зь цяперашняй ізаляцыі...***

Майкл Козак – ужо чацьверты амэрыканскі амбасадар у незалежнай Беларусі пасьля Дэйвіда Сўорца, Кэнэта Яляваца й Дэніэла Спэкгарда. Прыляцеўшы з Франкфурту рэгулярным рэйсам "Люфтганзы" разам з жонкаю Эйлін, спадар Козак у аэрапорце "Менск-2" сказаў журналістам: "Эйлін і я ў захапленьні ад таго, што мы нарэшце тут. Мы зь нецярпеньнем чакалі гэтай місіі больш як год, і цяпер яна стала рэальнасьцю. Цягам найбліжэйшых месяцаў мы спадзяемся наведаць усе рэгіёны краіны".



Амбасадар таксама зрабіў камплімэнт нашаму Краю, нагадаўшы, што Беларусь "дала сьвету больш, чым можна было меркаваць паводле ейных памераў, а менавіта – усясьветна вядомых мастакоў, пісьменьнікаў, вучоных". Майкл Козак наважаны больш глыбока вывучыць беларускую гісторыю.

Падчас сваёй прамовы сп.Козак выказаўся і па праблемах палітычнай злабадзённасьці. Ён заўважыў, што ЗША ставяць за мэту дасягненьне таго, каб "дэмакратычная, заможная ды сапраўды незалежная Беларусь была ключом да доўгатэрміновай стабільнасьці ўсходняга эўрапейскага рэгіёну". Дзеля дасягненьня гэтага амбасадар зьбіраецца працаваць усімі прымальнымі спосабамі праз кантакты з дэмакратычнымі сіламі ўсяго палітычнага спэктру краіны.

*Паводле інфармацыйных агенцыяў*

## Тры сустрэчы

У мінулы чацьвер тры магілёўскія офісы – ліцэй, гімназія і абласная бібліятэка – сталіся месцамі трох сустрэчаў з паэтам Міхасём Скоблам і літаратуразнаўцам Міхасём Чарняўскім. Нагодай шчырых размоваў з моладзю быў выхад у друк чарговага тома "Беларускага кнігазбору" – кнігі вершаў і эсэ Ларысы Геніюш.

Паўсюль былі перапоўненыя залі. Цікаўная цішыня. Жывыя вочы. Кранальныя пытаньні... А найперш – глыбокі і цікавы расповяд гасьцей пра выбітнейшую беларускую паэтку і патрыётку. Пра лёс чалавечы і вартаснасьць жыцьця. Пра гісторыю краю і ягоныя спрадвечныя сымбалі. Пра беларускую злабадзённасьць і пэрспэктывы.

Такімі ж былі пытаньні. Магілёўская навучэнская моладзь уразіла менскіх літаратараў шчырасьцю і цягай да праўды, чуйнай рэакцыяй да ўсяго, пра што не гаворыцца ў клясах і аўдыторыях, але і не ўдаецца выкрасьліць з моладзевай сьвядомасьці, роздуму і жаданьня ва ўсім разабрацца самастойна. Міхась Скобла, напрыклад, быў відавочна ўзрушаны і ўсхваляваны працяглымі воплескамі ліцэйскай аўдыторыі на ўзгадку прозьвішча Зянона Пазьняка пры адказе на пытаньне, за каго галасаваў паэт на прэзыдэнцкіх выбарах. (Падалося, дарэчы, што гэты жэст па-свойму ўразіў і прысутных на сустрэчы нашых "памяркоўных" партыйных актывістаў).

Да арганізацыі сустрэчаў спрычыніліся Малады Фронт, ТБМ, грамадзкія распаўсюджвальнікі "Беларускага кнігазбору", за што ўсім – дзякуй! А прэзэнтацыя кнігі Ларысы Геніюш працягнецца па іншых гарадох краіны. Магілёўская – была першай. І ўдалай.

***Андрусь КАВАЛЁЎ***

## Горкія 100 дзён бяз пробліску і праўды

***Мінула 100 дзён, як зьнік пры загадкавых абставінах апэратар ОРТ Дзьмітры Завадзкі. Сьледчыя транспартнае пракуратуры дагэтуль ня далі пэўнага адказу на пытаньне, што ж адбылося насамрэч.***

Родныя і сябры намагаюцца рознымі шляхамі адшукаць якую-небудзь інфармацыю пра Д.Завадзкага. Яго маці, Вольга Рыгораўна разам з Паўлам Шараметам узялі ўдзел у праграме расейскае тэлевізіі "Чакай мяне". Яны прасілі ўсіх, хто мае хоць нейкія зьвесткі пра іхнага сына і сябра, паведаміць ім пра гэта. Пасьля выхаду перадачы патэлефанаваў мужчына, які не пажадаў прадстаўіцца й паведаміў, што Дзьмітрыя бачылі ў Віцебскай турме. Вось што паведаміла на гэты конт жонка зьніклага Сьвятлана: "Чалавек, які сябе не назваў, паведаміў, што Дзьмітрыя пасьля выкраданьня тры дні трымалі ў Віцебскай турме. Ён быў затрыманы нібыта з-за нейкіх дакумэнтаў. Пасьля гэтага яго адтуль вывезьлі, куды – невядома, але ён жывы. Пасьля гэтага сувязь перарвалася".

Тым часам Павал Шарамет у Менску здымае дакумэнтальны фільм пра зьніклых Юрыя Захаранку, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага й Дзьмітрыя Завадзкага. Ён паведаміў радыё "Свабода", што зь недаверам ставіцца да паведамленьня пра зьяўленьне Д.Завадзкага ў турме. Сьледчыя таксама не валодаюць такой інфармацыяй.

П.Шарамет заявіў, што "сьледчыя выйшлі на тое, на што, па ідзі, ня мусілі былі выходзіць. Зараз нават зьмяняецца склад сьледчае брыгады"...

***Любоў ЛУНЁВА***





**ЛІСТ ЧЫТАЧА**

## Чаму такі жорсткі час?

Хацелася б расказаць пра выпадак, сьведкам і мімвольным удзельнікам якога мне давялося быць.

У ашчаднай касе "Беларусбанка" у Крычаве, што знаходзіцца на мікрараёне "Камсамольскім", я стаяў у чарзе, каб атрымаць заработную плату. Перада мной пэнсію атрымала нейкая старая. Яна была зусім слабая – сапраўдны "божы адуванчык". Зь цяжкасьцю адышоўшы ад бар'еру, няшчасная трапіла пад пільную апеку, як потым высьветлілася, свайго роднага сына. Гэта была істота з разраду тых, пра якіх кажуць "прапітая рожа". Нягоднік сілай выпраў з дрыжачых матчыных рук грошы і, нягледзячы на ейнае жаласнае скугатаньне, накіраваўся да дзьвярэй. Не згадзіўшыся з такім паваротам падзеяў, я ўмяшаўся і дапамог вярнуць грошы бабульцы. Па словах пацярпеўшай, сын другі месяц адбірае й да капейкі прапівае ўсю яе невялічкую пэнсію, а яна, старая, пакутуе ад галоду.

Праводзіўшы жанчыну да выхаду, мы ўбачылі сыночка, які пільнаваў маці непадалёк. Старая заплакала і сказала, што ён усё роўна адбярэ ўсе грошы. Так і здарылася. Не пасьпеў я адыйсьці ўбок, як нахабнік зноў пачаў адбіраць пэнсію. Не вытрымаўшы, я з усёй моцы нападдаў яму нагой у мяккае месца, і ў чарговы раз вярнуў грошы ўладальніцы.

Рабаўнік адышоў на пэўную адлегласьць і пачаў чакаць, пакуль маці застанецца адна. Па вялікім рахунку, мне трэба было давесьці яе да хаты, але часу зусім не было, ды й хадзіла старая вельмі марудна. Таму я быў вымушаны сыйсьці, з горкім разуменьнем таго, што жывёліна, а інакш такога нельга і назваць, усё ж адбярэ ўсе грошы і прасадзіць у бліжэйшай краме.

Што будзе пасьля гэтага са старой – зусім не хацелася думаць...

***(Подпісу ня стаўлю, бо справа тут не ўва мне)***





*Напрыканцы мінулага тыдня сябры вандроўнага згуртаваньня "Чароўны ўспамін" і запрошаныя імі на сваю імпрэзу магілёўцы мелі магчымасьць нібы наведаць знакамітыя мясьціны Беларусі. Водарам гэтых мясьцінаў на працягу апошніх 5 год дыхалі магілёўскія вандроўнікі, якія прайшлі і праехалі па іх – крыху панішчаных і зруйнаваных – але існых і прыгожых, як усё ў нашай Бацькаўшчыне.*

*Тое, што бачылі, і было прапанавана гасьцям імпрэзы ў выглядзе мастацкіх фотаздымкаў Аляксандра Ліціна і гістарычных камэнтароў да іх Аляксандра Агеева, аформленых на пляншэтах, а таму зручных для дэманстрацыі ў любым паселішчы і памяшканьні. Гэтая перасоўная выстава і мае намер наведаць магілёўскія вёскі і гарады, школкі і музэі, культуровыя ўстановы...*

*А яшчэ гаспадары вечарыны сьпявалі, як традыцыйна яны робяць пад адкрытым небам ля вогнішча, распавядалі вандроўныя байкі, узгадвалі сьмешныя эпізоды з свайго штогадовага летняга бадзяньня па краіне. А камандзір "ЧУ" Васіль Аўраменка, да ўсяго ж доктар па прафэсіі, гэтым разам нават дазволіў адмяніць звычайны ў паходах "сухі закон". І "чароўныя сябры" (акрамя самых юных) разам з гасьцямі пакаштавалі піва...*

*Чароўны ўспамін пакінула па сабе і гэтая цёплая і цікавая імпрэза. Для нябыўшых на ёй – гэтыя здымкі.*

*Фота Дзяніса НОВІКАВА*







## Як важна адчуваць сяброўскае плячо

У мінулую суботу ў абласным цэнтры прайшоў устаноўчы сход Магілёўскага краязнаўчага таварыства (МКТ). У часе абмеркаваньня Статута і канцэптуальных напрамкаў працы да назову таварыства былі дададзеныя яшчэ тры словы: імя Еўдакіма Раманава.

Наш выбітнейшы зямляк на памежжы мінулага і бягучага вякоў зрабіў неверагодна шмат для папулярызацыі краязнаўства, энтаграфіі, мясцовай архэалёгіі, фальклёру, кнігавыдаўніцтва беларускіх літаратурных твораў.

Наданьне новаму таварыству гэтага ганаровага імя, што да многага абавязвае сябраў МКТ, было адзінай папраўкай у статут і канцэпцыю, якая прайшла бяз спрэчак і была прынятая адзінадушна. Усе астатнія абрысы народжанай арганізацыі выклікалі жывое абмеркаваньне і зацікаўлены ўдзел больш чым 50-ці ўдзельнікаў сходу з усіх раёнаў нашага ўсходняга Падняпроўя. Менавіта таму, што ў залі былі не дылетанты, якія толькі намерваліся брацца за цікавую справу, а людзі, якія шмат гадоў жыцьця аддалі (і працягваюць гэта рабіць) патрыятычнай справе вывучэньня і папулярызацыі гісторыі роднага краю. Школьныя настаўнікі, выкладчыкі вышэйшых установаў, стваральнікі аматарскіх музэяў і супрацоўнікі музэяў "афіцыйных", журналісты, супрацоўнікі галіны культуры ў кожным з нашых раёнаў безкарысьліва працуюць на ніве краязнаўства. Яны гуртуюць вакол сябе моладзь, якая ведае свае корані і свой абавязак перад краінай. Яны пераадольваюць непаразуменьне, а тое й супраціў з боку казёншчыны і чынавенскай баязьлівасьці на месцах. Яны знаходзяць і захоўваюць такія сьведчаньні з жыцьця папярэдніх пакаленьняў, перакрочваць праз якія можна толькі рызыкуючы назаўсёды згубіць памяць і сумленьне...

Утваранае днямі Таварыства дазволіць кожнаму з гэтых апантаных людзей адчуць у клопатах і справах сяброўскае дыханьне і надзейнае плячо. Засталося толькі зарэгістраваць новую арганізацыю ва ўпраўленьні юстыцыі. Да гэтай, спадзяемся, фармальнасьці краязнаўцы займелі офіс, кампутар, сродкі сувязі, партнэрскія кантакты з зацікаўленымі арганізацыямі. Нарэшце, выбралі старшыню, якім стаўся старэйшы выкладчык магілёўскага Унівэрсытэту, гісторык Ігар Марзалюк. Абралі калегіяльную кіраўнічую раду.

На арганізацыйным этапе зроблена ўсё, што трэба для працы. Яна ж пакажа ўсё астатняе.

***Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК у пытаньнях культуры***

## Хоць у нечым наперадзе!

*Паводле Сусьветнай Арганізацыі Аховы Здароўя, 8 літраў алькаголю на чалавека ў год – парог, вышэй за які пачынаецца выраджэньне нацыі. У Беларусі гэты паказчык – 11 літраў. У Расеі гэтая лічба складае 9 літраў на чалавека, ва Ўкраіне – 4,5 літра.*

У нашай краіне колькасьць асобаў, якія стаяць на ўліку як хворыя на алькагалізм, зараз складае 174 тыс. чалавек (у сталіцы – 32 тысячы). Але й гэтыя гэтыя жахлівыя лічбы не адлюстроўваюць небясьпечнай глыбіні ўсёй карціны.

Дадаць сюды трэба тое, што колькасьць дактароў-нарколягаў і наогул увесь штат падобных установаў і кабінэтаў адпаведны нарматыву, зацьверджанаму – заўважце! – у 1976г. Дадайце простыя ўмовы сёньняшняга жыцьця большасьці грамадзтва, асабліва – на вёсцы. Дадайце памаладзеньне такой заганы як п'янства. Дадайце калечаньне (а зусім не лячэньне) хворых у так званых ЛТП...

Ды што казаць... Ёсьць чым хваліцца.

***Ганна СОУСЬ***



***

Тым часам у Асіповічах утвораная раённая камісія па барацьбе з п'янствам. Адметна, што ў яе разам з адказнымі работнікамі райвыканкаму і адміністратыўных установаў увайшоў другі сакратар райкаму БПСМ. Чытачы нашыя, хто засьпеў і добра яшчэ памятае камуністычна-савецкія часы, адразу адчуе ў гэтым паведамленьні нешта, як тое гаворыцца, да болю знаёмае. Менавіта ў такім жа складзе (замест намесьніка з райвыканкаму быў другі сакратар РК КПБ, а замест БПСМ – ЛКСМБ) гэтыя "грамадзкія" утварэньні ўжо дзейнічалі. Сумныя вынікі іхняй актыўнасьці таксама вядомыя...

Як заранёў вядомыя вынікі любых стараньняў па змаганьні з пасьледкамі, а не з прычынай.

КУТОК ФІЛЯТЭЛІСТА

## Дзе шануюць нашых спартоўцаў

Сотні краінаў прысьвяцілі Алімпійскім гульням у Сыднэі тысячы выпускаў маркаў і блёкаў. Дакладна невядомая пакуль статыстыка наконт таго, колькі ж усяго было выпушчана новых маркаў. Да таго ж, гэты спартовы выпуск працягваецца й цяпер. Спрычынілася да гэтае справы й беларуская пошта. 10 верасьня ў паштовае абарачэньне была выпушчаная сэрыя з трох маркаў і блёка, зробленая мастаком А.Зіменкам. Сэрыя надрукаваная афсэтам на мелаванай паперы. Шматкаляровыя маркі зробленыя ў выглядзе сцэнкі ў адным лісьце з 15 маркаў (3x5). Агульны наклад іхны 90 тысячаў сэрыяў. Наклад блёка – 25 тысячаў. Як звычайна, на Менскім паштамце адбылося гашэньне штэмпелем першага дня, на якім быў выяўлены алімпійскі факел.

Паводле даўняе традыцыі, большыня маркаў, што выпускаюцца да Алімпіядаў, прысьвечаныя тым атлетам, якія могуць выйграць спаборніцтвы ці атрымаць мэдалі. Беларускія "сыднэйскія" маркі (усе яны маюць намінал у 100 рублёў) гэтым разам зьмяшчалі выявы гімнаста, веславальшчыка і гімнасткі. На паштовым блёку былі выяўленыя спаборніцтвы ў беге, скачках у вышыню і скачках з дапамогаю жэрдкі.

Сёньня, калі мы ведаем вынікі Алімпіяды, можна сказаць, што нашая пошта "угадала" толькі ў выпадку з гімнасткай (гаворка аб мастацкай ці рытмічнай, як называюць на Захадзе гэты від спорту, гімнастыцы). А вось астатнія посьпехі – жаночыя залатыя ды іншыя – беларуская пошта прадказаць ня здолела.

Яшчэ трэба адзначыць, што ў сьвеце, але, на жаль, ня ў нас, існуе традыцыя выпуску маркаў ужо пасьля Алімпійскіх гульняў, з выявамі герояў-пераможцаў. Менавіта такім чынам у свой час беларускія спартоўцы В.Корбут, А.Мядзьведзь, А.Шчэрба ды іншыя зьявіліся на марках, выпушчаных у замежжы. Атрымліваецца, што ў тых краінах іх любяць больш?..

І напрыканцы дадам, што ўжо выпушчаная сэрыя маркіраваных капэртаў з выявамі алімпійскіх спартовых дысцыплінаў.

***Уладзімер ЗАРЭМСКІ***




Рэдактар Генадзь СУДНІК




Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА
«КОЛА СЯБРОЎ».

Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.

Штотыднёвік



АДРАС РЭДАКЦЫІ:

212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.



Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.

E-mail: krug@user.unibel.by

Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Я.Свярдлова, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова **42**. Наклад **2000** асобнікаў. Падпісана да друку 26.10.2000 г. а 17.05.